

Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ САВЕЦКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Выдаецца Інфармацыйна-Выдавецкім Аддзелам Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнай Нарады (г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3). = Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VI-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 18 (92) | 5 верасьня 1930 г. | № 18 (92)

## ЗЬМЕСТ.

# Пастанова аб'яднанага пасяджэньня Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б і Калегіі НК РСІ БССР.

## Паст. 147. Па пытаньні аб выніках вясеньняй пасеўкампаніі і падрыхтоўку да ўборачнай і асеньняй пасеўкампаніі.

Адзначыць, што вясеньняя пасеўная кампанія г. г. прайшла пад знакам шырокага разгортваньня калектывізацыі вёскі і на гэтай падставе зьнішчэньня кулака, як клясы, замены вытворчасьці яго вытворчасьцю саўгасаў і калгасаў, вясеньняя пасеўная кампанія па аграмаджанаму сэктару прайшла наогул здавальняюча: маецца значнае пашырэньне пасеўнай плошчы, плошчы пад садамі і гародамі, лепшае скарыстаньне папараў, лепшая апрацоўка глебы, павялічэньне і пашырэньне мерапрыемстваў па агра і зоамінімуму, асабліва па ўнядрэньні гатунковага насеньня, радавога засеву, ачысткі насеньня, значнае павялічэньне пагалоўя жывёлы, асабліва маладняку.

Па індывідуальнаму сэктару, пры стабілізацыі пасеўнай плошчы наогул, у паасобных выпадках заўважваецца недасеў, скарачэньне мэліарацыйных работ, значнае скарачэньне пагалоўя жывёлы (40-50%), але адначасова заўважваецца павялічэньне ўжываньня гатунковага насеньня, большая ачыстка насеньня і г. д.

Дзякуючы гэтаму і досыць здавальняючаму стану пасеваў, як азімых, так і яравых, заданьне аб уздыме ўраджайнасьці ў значнай частцы будзе выканана.

1. Канстатуючы, што ня гледзячы на шэраг дырэктыў Партыі і Ураду, канкрэтных прапаноў РСІ, наглядаецца амаль поўны застой у далейшай калектывізацыі і вытворчым каапераваньні бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вёскі,—прапанаваць НКЗ, калгасна-каапэрацыйнай сыстэме і мясцовым органам (РВК, с/с.) у час правядзеньня падрыхтоўчай працы да ўборачнай і асеньняй пасеўкампаніі, максымальна разгарнуць працу па вытворчаму каапераваньню сельскай гаспадаркі і калектывізацыі, забясьпечыўшы плянавасьць і належную падрыхтоўку ў гэтай працы, адначасова ўрэгуляваць вытворчыя ўзаемаадносіны нізавой сеткі з калгасамі, зьвярнуўшы ўвагу калгассыстэмы на патрэбу арганізацыйна-гаспадарчага ўпарадкаваньня калгасаў, ачысткі ад варожых элемэнтаў; узмацніць працу з беднатой і забясьпечыць далейшае ўцягненьне ў калгасы бядняцка-серадняцкіх слаёў вёскі.

2. Адзначаючы, што падрыхтоўка да ўборачнай і асеньняй пасеўкампаніі праходзіць надзвычайна павольна, неарганізавана (пляны складаліся да гэтага часу марудна, зьверху, без належнай канкрэтнасьці і ўвязкі, без вычарпальных з боку НКЗ паказаньняў, бяз уліку пакрыцьця дэфіцыту рабочае сілы ў абагуленым сэктары і наогул без мерапрыемстваў па індывідуальнаму сэктару, у значнай частцы не даведзены да вытворчых адзінак і двароў і не абгаварваліся на сходах) і што грамадзкасьць яшчэ не мабілізавана вакол гэтых кампаній,—прапанаваць цэнтральным, акруговым, раённым партыйным, савецкім і каапэрацыйным установам (асабліва райкомам і ячэйкам КП(б)Б саўгасаў і калгасаў), улічыўшы памылкі вясеньняй пасеўкампаніі, тэрмінова пераключыць сваю працу на баявыя тэмпы, ліквідаваць водпускныя настроі, забясьпечыць выкананьне заданьняў, шырокае прыцягненьне грамадзкасьці (вясковага актыву, жандэлегатак, КСМ, шэфства), разгарнуць сац. спаборніцтва, ударніцтва.



3. Адзначаючы, што зямельныя органы ў значнай ступені ня справіліся з задачай рэгуляваньня насеньня ў вясеньнюю пасеўную кампанію (значная астача, частковае невыкананьне плянаў, няпоўнае скарыстаньне гатунковага насеньня) і што ва ўмовах асеньняй пасеўкампаніі гэтая задача яшчэ больш ускладняецца,—прапанаваць зямельным органам, саўгасам і паляводчаскай сыстэме, а таксама РВК забясьпечыць сваечасовае высьвятленьне запатрабаваньняў у насеньні, магчымасьці яго пакрыцьця, перакідак (у прыватнасьці—завозу ў БССР гатунковага насеньня азімых культур).

4. Адзначаючы надзвычайна слабую ўвагу і дапамогу з боку зямельных органаў, сельсаветаў, КСУ, саўгасаў і калгасаў бядняцка-серадняцкім гаспадаркам неабагуленага сэктару, а часткова індыфэрэнтызм, і нават варожыя ўзаемаадносіны паміж калгасамі і індывідуальным сэктарам, слабую папулярызацыю сярод шырокіх мас законаў аб ільготах калгасам па с.-г. падатку і г. д.,—прапанаваць гэтым органам узмацніць сваю ўвагу і дапамогу бядняцка-серадняцкім гаспадаркам індывідуальнага сэктару, першапачатковым вытворчым аб'яднаньням устанавіць нармальныя ўзаемаадносіны з неабагуленым сэктарам; максымальна скарыстаць час уборачнай і асеньняй пасеўкампаніі для большай папулярызацыі новых законаў і ільгот па сельскай гаспадарцы.

5. Канстатуючы некаторае палепшаньне ў адносінах жывога кіраўніцтва нізавымі зьвеньнямі і вытворчымі адзінкамі ў час падрыхтоўкі да сяўбы (пасылка на вёску адказных працаўнікоў, спэцыялістых, брыгад), аднача́сова адзначаючы амаль поўны няўдзел с/с. у справе правядзеньня вясеньняй пасеўнай кампаніі па аграмаджанаму сэктару, недастатковае і несваечасовае кіраўніцтва з боку НКЗ і НКГ ў насеннай справе, кантрактацыі, вытворчай спэцыялізацыі і г. д., неналаджанасьць справаздачнасьці перад вышэйшымі інстанцыямі,—прапанаваць РВК, зямельным органам, саўгасаб'яднаньням, калгассыстэме і с/с. яшчэ больш узмацніць сваю жывую сувязь з месцамі і вытворчымі аб'яднаньнямі, забясьпечыўшы сваечасовую практычную дапамогу ім, пастаноўку дакладаў саўгасаў і калгасаў на пленумах і прэзыдыумах с/с., а таксама забясьпечыўшы сваечасовасьць справаздачнасьці месц.

6. Спазьненьне з выданьнем новага закону аб земляўпарадкаваньні і адсутнасьць дакладных інструкцый НКЗ на мясцох выклікалі значныя затрымкі ў правядзеньні земляўпарадкаваньня (няскончанасьць адводаў сенажацяў і разьмеркаваньня саўгасау і калгасаў да I/VII), скажэньне дырэктыў, накапленьне нявырашаных спрэчак. Для пасьпяховага правядзеньня земляўпарадкаваньня даручыць НКЗ ў тыднёвы тэрмін даць на месцы вычарпальныя інструкцыі па земляўпарадкаваньні, а РВК тэрмінова скончыць адводы сенажацяў, азімага кліну, разьмеркаваньне саўгасаў і калгасаў, вырашэньне спрэчак.

7. Адзначаючы невыкананьне НКЗ да гэтага часу дырэктыў Ураду і РСІ аб вырашэньні пытаньня раёнаваньня сельскай гаспадаркі БССР, лічачы папярэдне праведзеную спэцыялізацыю калгасаў нездавальняючай, даручыць НКЗ да I/IX-30 г. даць канчатковае раёнаваньне сельскай гаспадаркі, а калгассыстэме перагледзець у адпаведнасьці з гэтым спэцыялізацыю паасобных калгасаў, з папярэднім шырокім прыцягненьнем грамадзкасьці і абгаварэньнем на сходах калгасьнікаў.

8. Прапанаваць зямельным органам і паляводсыстэме прыняць рашучыя захады да забясьпечаньня поўнага выкананьня заданьняў па мэліарацыі, асабліва ў адносінах палепшаньня сенажацяў, максымальна аказваючы дапамогу мэліарацыйным т-вам (пракат трактараў, машын, насеньне).

9. Адзначаючы, што выкананьне заданьняў па кантрактацыі (асабліва па жывёле), ня гледзячы на шэраг дырэктыў і канкрэтных прапаноў з боку РСІ, знаходзіцца пад пагрозай зрыву (з прычыны спазьненьня, блытаніны, распыленасьці, слабасьці нізавой сеткі, нерэальнасьці заданьняў); што заданьне аб тэрміновым сканчэньні праверкі і перазаключэньні ўмоў па кантрактацыі ня выканана,—катэгарычна прапанаваць сыстыме с.-г. капярацыі і Белкапсаюзу скончыць гэтую працу да 10/VIII па паляводч. культурах і да І/Х па жывёле, а НКГ праверыць у 10-дзённы тэрмін, як ажыцьцяўляецца дырэктыва аб дапамозе з боку мясцовых органаў. Паставіць перад адпаведнымі органамі пытаньне аб неабходнасьці далейшай уніфікацыі кантрактацыі, канцэнтраваньня яе ў аднэй сыстэме.

10. Адзначаючы, што капітальнае будаўніцтва ў саўгасах і асабліва ў калгасах (скотныя двары, сьвінарнікі, малочныя фэрмы, памяшканьні для ўраджаю) знаходзіцца пад пагрозай зрыву ў выніку бесплянавасьці, неабгаворанасьці з грамадзкасьцю, няўлічэньня мясцовых рэсурсаў, позьняга вызначэньня фінансаваньня і недастатковай дапамогі з боку мясцовых органаў,—прапанаваць НКЗ, Саўгасаб'яднаньню, калгассыстэме і Калгасбуду ўзмацніць сваё кіраўніцтва, тэхнічны нагляд за будаўніцтвам, тэрмінова даць канкрэтныя паказаньні наконт аб'ёму і аб'ектаў будаўніцтва і максымальнага ўлічэньня мясцовых рэсурсаў; прапанаваць Саюзлесу забясьпечыць будаўнічымі матарыяламі, а НКЗ ў 10-дзённы тэрмін вырашыць і даць на месцы канкрэтныя паказаньні аб парадку карыстаньня калгасамі драўнінай з лясоў мясцовага значэньня.

11. Адзначаючы, што ня гледзячы на неаднаразовыя прапановы РСІ на працягу 2-х год, НКЗ да гэтага часу не ўпарадкаваў справу насеннаводзтва, катэгарычна прапанаваць яму ў месячны тэрмін канчаткова вызначыць гатункі насеньня і іх раёнаваньне, забясьпечыць чоткае рэгуляваньне насеньня, арганізацыю насенфондаў у паасобных гаспадарках, арганізацыю спэцыяльных насеннаводчаскіх гаспадарак (лубінных), прыняць меры да шырэйшага ўнядрэньня адпаведных сартоў гатунковага насеньня.

12. Прапанаваць зямельным органам прыняць усе залежныя захады да пашырэньня правядзеньня агра- і заамінімуму ў час уборачнай і асеньняй пасеўных кампаній, асабліва ў адносінах поўнай ачысткі насеньня (арганізацыя зернаачышчальных атрадаў, поўная нагрузка машын), пратручваньня яго, барацьбы з шкоднікамі, ажыўленьня дзейнасьці аграўпанаважаных і г. д.

13. Канстатуючы, што дырэктывы Партыі і Ўраду ў галіне жывёлаводзтва ў сучасны момант практычна яшчэ не разгорнуты (выкананьне пляну па буйнай рагатай жывёле каля 50%, па сьвіньнях—каля 10% заданьня) і знаходзяцца пад сталай пагрозай невыкананьня, што якасьць загатаўляемай жывёлы нізкая, умовы ўтрыманьня, вырашчваньня, вэтнагляд—нездавальняючыя, што племянная справа не забясьпечана вытворнікамі, прапанаваць НКЗ, саўгасаб'яднаньням, малжывёлсыстэме, РВК прыняць усе залежныя захады да поўнага

выкананьня заданьняў, зьвярнуўшы належную ўвагу на сьвінагадоўлю, дробную жывёлагадоўлю і птушак, забясьпечыць утрыманьне і вырашчваньне маладняку, павялічыўшы закупку вытворнікаў. Даручыць НКЗ ўзмацніць вэтнагляд і барацьбу з эпізаотыямі, асабліва ў сьвіных гаспадарках, НКГ для большай пасьпяховасьці нарыхтоўкі жывёлы ў тэрміновым парадку пераглядзець цэны на закупку жывёлы і асабліва сьвінаматак у бок падвышэньня іх.

14. Адзначаючы востры дэфіцыт кармовай базы ў абагуленым сэктары і яўную пагрозу зрыву заданьняў па сіласаваньні ў выніку нядбайных адносін да гэтай справы з боку НКЗ, саўгасаб'яднаньняў, калгасаў, Лесбелу і непасрэдна вытворчых адзінак (пасеў траў 38%, караньплодаў 20%, сілосных культур—9,5%), амаль не распачатае будаўніцтва сілосных установак,—даручыць НКЗ, саўгасаб'яднаньням, Белмалжывёлсаюзу ў трохдзённы тэрмін даць канчаткова цьвёрдыя паказаньні месцам наконт пабудовы сілосных установак; у працягу двох тыдняў правесьці праверку, як наогул праходзіць на мясцох справа сіласаваньня. Устанавіць сыстэматычны нагляд за тэрміновым ажыцьцяўленьнем сілоснага будаўніцтва і за поўным скарыстаньнем сілосных траў і спэцыяльных культур, вызначыць адказных асоб па сіласаваньні ў кожнай установе; прыцягнуць да справы правядзеньня сіласаваньня мясцовы агранамічны пэрсанал, грамадзкасьць, КСМ. Прапанаваць Лесбелу да 15/VIII здаць усе заказаныя стандартныя сілосныя ўстаноўкі, а Калгасбуду тэрмінова іх прыняць і ўстанавіць. Лічыць неабходным зараз-жа распачаць кантрактацыю і нарыхтоўку грубых кармоў (сена, саломы) у індывідуальным сэктары для задавальненьня патрэб абагуленага сэктару. Пры недахопе спэцыяльных сілосарэзак, максымальна скарыстаць для гэтае мэты маючыяся саламарэзкі, што шырока папулярызаваць сярод калгасаў.

15. Канстатуючы нядбайныя адносіны Белмэталётрэсту да наладжаньня справы вытворчасьці ў БССР запасных частак для трактараў, штогодняе спазьненьне з выпускам акучнікаў, затаварваньне няходкімі прымітыўнымі с.-г. машынамі, прапанаваць Белмэталётрэсту забясьпечыць да пачатку новага аперацыйнага году поўнае прыстасаваньне вытворчасьці с.-г. машын да запатрабаваньняў сельскай гаспадаркі (як у адносінах колькасьці, так і тыпаў), забясьпечыць своечасовы іх выпуск і адгрузку да сэзонаў, тэрмінова, пад адказнасьцю дырэктара БМТ, высьвятліць канчаткова пытаньні вытворчасьці ў БССР запасных частак для трактараў і складаных уборачных машын і прыступіць да арганізацыі гэтае вытворчасьці, Прапанаваць НКЗ, Белсельснабу і сыстэме с.-г. капярацыі ў двохтыднёвы тэрмін распрацаваць пытаньне аб хуткім скарыстаньні накапіўшыхся на складах прасьцейшых с.-г. машын.

16. У справе машыназабясьпечаньня адзначыць наступныя недахопы: а) адсутнасьць сьвядомасьці НКЗ і Бельсельснабу аб сапраўдным машыназабясьпечаньні; б) нярэгуляваньне гэтай справы; в) спазьненьне завозу і дасылкі расцэнак; г) значная колькасьць завозу машын з няпоўным камплектам частак; д) неўрэгуляваньне да гэтага часу даручэньня РСІ аб утварэньні адзінае машынаправодзячае арганізацыі; е) валакіта паміж Белсельснабам, Белпайгандлем, Белкапсаюзам і машынааб'яднаньнем у адносінах снабжэньня інструмэнтарыем: ж) завоз у БССР трактараў шматлікавых марак; з) спазьненьне і досыць значнае недавыкананьне пляну завозу с.-г. машын да вясеньняй

пасеўкампаніі; пагроза завозу ў асеньнюю пасеўкампанію, асабліва ў адносінах складаных уборачных машын (завоз на 15/VII: снапавязалак—20%, конных грабель—22%, сеялак—75%, барон—60%). Для зьнішчэньня гэтых недахопаў: паставіць перад НКЗ Саюзу пытаньне аб хутчэйшым і больш поўным завозе ў БССР машын, трактараў, асабліва складаных, балотных трактараў і плугоў; даручыць НКЗ, саўгасаб'яднаньням, Бельсельснабу і Белпаляводсаюзу ў месячны тэрмін дакладна высьвятліць становішча машыннага парку па сыстэмах, намеціць плян перараьзмеркаваньня паміж паасобнымі гаспадаркамі і ажыцьцявіць яго ў працягу 1930 г. Даручыць Белсельснабу прыняць усе залежныя меры да сваечасовага завозу машын і запасных частак поўнымі камплектамі, а таксама дасылкі расцэнак на іх, высьвятліць у цэнтры і ўрэгуляваць справу рэалізацыі кантынгэнту інструмэнтарыя для майстэрань. Прапанаваць калгасам і саўгасам арганізаваць азнаямленьне рабочых з складанымі машынамі.

17. Адзначаючы адсутнасьць цьвёрдых установак і кіраўніцтва НКЗ у галіне трактарызацыі, зусім слабае разгортваньне сеткі машынатрактарных і машынаконных станцый, неналаджанасьць унутранай іх арганізацыі і ўзаемаадносін з мясцовымі органамі, прапанаваць НКЗ, саўгасаб'яднаньню і Калгасцэнтру ўзмацніць сваё кіраўніцтва ў гэтай галіне, паскорыць арганізацыю новых машына-трактарных і машынаконных станцый (апошнія, як для унутранага, так і для міжсяленнага абслугоўваньня). Паставіць перад адпаведнымі органамі пытаньне аб хутчэйшым забясьпечаньні МТС памяшканьнямі; лічыць неабходным, каб з завозімых складаных уборачных машын у першую чаргу былі ўкамплектаваны машынатрактарныя і машынаконныя станцыі, але не за лік саўгасаў. Прапанаваць Койданаўскай МТС у тэрміновым парадку зьнішчыць недахопы, адзначаныя абсьледваньнем РСІ і пастановай Прэзыдыуму Койданаўскага РВК за 23/VII г. г. і аб выніках паведаміць НКРСІ у 10-дзённы тэрмін.

18. Для забясьпечаньня сваечасовага і поўнага рамонту с.-г. машын даручыць: Белсельснабу выканаць пастанову аб сканцэнтраваньні ў яго сыстэме рамонту с.-г. інвэнтару, прапанаваць яму і РВК забясьпечыць хутчэйшую арганізацыю і абсталяваньне складаных майстэрань па рамонту трактараў і с.-г. машын, абсталяваньне існуючых майстэрняў і кузьняў; прапанаваць адпаведным органам урэгуляваць справу забясьпечаньня майстэрань мэталямі і жалезным ломам. Зьвярнуць увагу на больш шырокую дапамогу ў рамонце с.-г. машын індывідуальным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам. Прапанаваць саўгасаб'яднаньням і Калгассыстэме ў тэрміновым парадку скончыць рамонт уборачных машын і наладзіць справу рамонту машын да асеньняй пасеўкампаніі.

19. Адзначаючы ў справе крэдытаваньня значнае спазьненьне пляваньня, спазненьне і слабае давядзеньне некаторых крэдытаў да спажыўцоў і яшчэ больш слабае іх скарыстаньне (прыблізна на 50 проц.), недастатковасьць і нявысьвятленасьць некаторых крэдытаў (на жывёлаводзтва, сіласаваньне, будаўніцтва), недастатковае вызначэньне крэдытаваньня прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў (4,4 проц.) і крэдытаваньне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак індывідуальнага сэктару—прапанаваць Белкалгасбанку ў тэрміновым парадку давесьці да нізоў дэталёвы плян крэдытаваньня на другое паўгодзьдзе, прадугледзіць паплян у адпаведнае канкрэтнае крэдытаваньне па жывё-

ле, сіласу, на крэдытаваньне першапачатковых вытворчых аб'яднаньняў, па ўборачнай і асеньняй пасеўкампаніях, на будаўніцтва скотных двароў і складаў. Паставіць перад адпаведнымі органамі пытаньне аб мэтазгоднасьці сканцэнтраваньня ўсяго крэдытаваньня сельскай гаспадаркі ў аднэй сыстэме.

20. Адзначаючы недастатковы завоз у БССР штучных угнаеньняў да вясеньняй пасеўнай кампаніі, а таксама і тэмп завозу да асеньняй пасеўкампаніі (супэрфасфат—21 проц., фасфарытная і белая касьцяная мука—3 проц., сульфатамоній—60 проц., калійная соль—0 проц.), наглядаемы часткова завоз з спазьненьнем і недобраякаснага ўгнаеньня (касьцяная мука ў Аршан. акр.), зусім слабае скарыстаньне мясцовых фасфарытаў, прапанаваць усім сыстэмам прыняць належныя крокі да забясьпечаньня большага ўжываньня мясцовых угнаеньняў (торф, кампост, попел, вапна) шляхам большай іх папулярызацыі і г. д.); прапанаваць Стромтрэсту выканаць поўнасьцю плян вытворчасьці фасфарытнай мукі; даручыць НКЗ паставіць перад адпаведнымі органамі Саюзу пытаньне аб павялічэньні завозу ў БССР штучных угнаеньняў.

21. Адзначаючы паўтараючыйся з году ў год, ня гледзячы на дырэктывы Ураду і канкрэтныя прапановы РСІ, зрыў заданьняў па вапнаваньні глебы, яўную пагрозу зрыву вапнаваньня ў асеньнюю пасеўкампанію з прычын: а) шкоднага імкненьня зямельных органаў, паляводсыстэмы, Горнае групы ВСНГ зваліць недахопы сваёй працы выключна на непадрыхтаванасьць спажыўцоў вапны (саўгасаў, калгасаў); б) неналаджанасьць арганізацыйна-вытворчай працы вапнавых млыноў (своечасовасьць пабудовы, невыкананьне плянаў вытворчасьці, мэханізацыя працы, захаваньне, транспарт і г. д.); в) маруднасьць досьледаў і вызначэньня кропак для вапнавых млыноў з боку Горнае групы ВСНГ; г) нядбайны падыход з боку НКЗ у адносінах падрыхтоўчай працы (няскончанасьць дасьледаў глебы, дачы канкрэтных паказаньняў месцам па ўжываньні вапны і г. д.), слабая практыка кіраўніцтва і тэхнічнай дапамогі гэтай справе з боку Наркамзему, Акрза, паляводсыстэмы і зусім нездавальняючая праца па папулярызацыі і ўнядрэньні вапнаваньня глебы,—катэгарычна прапанаваць: НКЗ у тэрміновым парадку вытварыць грунтоўнае абсьледваньне гэтай справы, скончыць досьледы кіслотнасьці глебы, выдаць адпаведную карту і даць канкрэтныя паказаньні месцам па ўжываньні вапны, Горнай групе ВСНГ скончыць у гэтым сэзоне свае досьледы вапнякоў, выдаць карту, вызначыць месца пабудовы млыноў, даць вычарпальныя тэхнічныя паказаньні па эксплёатацыі вапнякоў, узмацніць свой тэхнічны нагляд па здабываньні вапны; паляводсыстэме і Сампрамкапярацыі забясьпечыць хутчэйшае сканчэньне пабудовы вызначаных млыноў; наладзіць арганізацыйна-вытворчую працу; Наркамзему, саўгасаб'яднаньням і Паляводсаюзу ўзмацніць працу па папулярызацыі ўжываньня вапны; праверыць на месцы, як сапраўды ажыцьцяўляецца дырэктыва па вапнаваньні глебы, разгрузку залежаў вапны на станцыях, прыцягнуць да адказнасьці тых кіраўнікоў. гаспадарак саўгасаў, калгасаў, якія ўхіляюцца ад правядзеньня вапнаваньня. Прапанаваць ВСНГ паскорыць распрацоўку праекту аб пераходзе на буйныя прадпрыемствы па выпрацоўцы вапны.

22. Для ўрэгуляваньня справы з цягавай сілай і наглядаемага збыту конскай сілы ў некаторых калгасах (асабліва ў раёнах машы-

на-трактарных станцый і трактарных калён), прапанаваць Наркамзему сумесна з калгассыстэмай распрацаваць мерапрыемствы па рацыянальнаму скарыстаньню конскай цягавай сілы (перараземеркаваньне, перакідкі, умовы карыстаньня пры наліччы трактараў і г. д,); да пачатку будучай вясеньняй кампаніі вырашыць канчаткова і правесьці практычнае ажыцьцяўленьне замены валовае цягавай сілы на конскую, правёўшы папярэдне шырокую растлумачальную працу.

23. Прапанаваць Наркамзему, Белкалгассыстэме і НКП, побач з вырашэньнем агульнай праблемы кадраў у сельскай гаспадарцы, у тэрміновым парадку пераглядзець штаты нізавых каперацыйных зьвеньняў, а таксама і вытворчых аб'яднаньняў у бок магчымага скарачэньня іх, адначасова прыняць меры да своечасовай падрыхтоўкі кадраў, укамплектаваньня курсаў, максымальна скарыстоўваючы зімовы час. Белкалгасцэнтру ў тэрміновым парадку забясьпечыць усе калгасы рахункаводамі і інструкцыямі па рахункаводзтву, наладзіць справаздачнасьць. Укамплектаваньне мясцовых курсаў рахункаводаў утварыць па пераважнасьці за лік калгасьнікаў. Сумесна з ЦСПСБ распрацаваць пытаньне аб мабілізацыі вопытных рахункаводаў для дапамогі калгасам у час сканчэньня ўборкі і гаспадарчага году. Паставіць перад калгассыстэмай пытаньне аб забясьпечаньні больш буйных і моцных калгасаў спэцыяльным аграпэрсаналам за лік калгасаў.

24. Прапанаваць Наркамзему ў двохтыднёвы тэрмін выканаць дырэктыву РСІ аб падагуленьні вопыту мабілізацыі спэцыялістых у вясеньнюю пасеўную кампанію, а вынікі ўлічыць пры правядзеньні наступных мабілізацый.

25. Адзначаючы, што ня гледзячы на спэцыяльнае даручэньне РСІ аб тэрміновым упарадкаваньні справы ўнутранай арганізацыі калгасаў і саўгасаў, у большасьці справа гэта неўпарадкавана на сёньняшні дзень, адсутнасьць сталых рабочых брыгад, слабая праца вытворчых нарад (адсутнасьць цьвёрдага падліку працы, норм выпрацоўкі, разьлікаў), а таксама востры недахоп рабочай сілы ў саўгасах і калгасах,—даручыць калгассыстэме і саўгасаб'яднаньням у тэрміновым парадку заняцца справай урэгуляваньня ўнутранай арганізацыі працы: арганізацыя рабочых брыгад у больш буйных калгасах, вытворчых нарад, падлік працы, устаноўка і разьлік паміж паасобнымі калгасьнікамі, падняцьце працдысцыпліны, падлік рэальных магчымасьцяй і недахоп рабочай і цягавай сілы, распрацоўка пытаньня аб арганізацыі ўзаемнай дапамогі сумежных калгасаў і саўгасаў у час уборкі і севу. Тэрмінова распрацаваць пытаньне аб спэцыяльных досьледах арганізацыі працы ў калгасах (выдзяленьне адпаведных адзінак і закладка вопытаў). Сумесна з ЦСПСБ у тыднёвы тэрмін удасканаліць і дастаткова папулярызаваць парадак і ўмовы карыстаньня пасылаемымі ў калгасы рабочымі брыгадамі. Лічыць неабходным стварэньне спэцыяльнага фонду промтавараў для прэм'яваньня правядзеньня ўборачнай кампаніі.

26. Прапанаваць РВК праз камісіі РСІ, раённыя рэв. камісіі праінструктаваць дзейнасьць рэвізійных камісій калгасаў.

27. Адзначаючы, што папулярызацыя агранамічных ведаў у пасеўнай і ўборачнай кампаніі праводзіцца вельмі слаба,—прапанаваць Белдзяржвыдавецтву выдаць вызначаную папулярную літаратуру да ўборачнай і асеньняй пасеўкампаній і рашуча ліквідаваць затрымкі ў праходжаньні выданьняў; узмацніць працу Радыёцэнтру, хат-чыталь-

няў у гэтым напрамку; зьвярнуць ўвагу газэт на неабходнасьць яшчэ большага асьвятленьня гэтых кампаній, асабліва ў галоўных галінах (жывёлагадоўля, будаўніцтва, сіласаваньне, вапнаваньне).

28. Даручыць Белкапсаюзу шырэй разгарнуць сваю працу па арганізацыі ў саўгасах і калгасах грамадзкага харчаваньня, ясель, дзіцячых пляцовак, асабліва на час уборачнай і асеньняй пасеўкампаній.

29. Максымальна скарыстаць застаючыйся да Усебеларускай выстаўкі час для большае яе папулярызацыі сярод калгасаў і індывідуальнага сэктару, асабліва зьвярнуць ўвагу на сваечасовую арганізацыю пасылкі экспанатаў і экскурсій.

30. Адзначаючы ўсё павялічваючыйся ўдзел рабочай грамадзкасьці ў праверцы працы адпаведных установ па падрыхтоўцы да с.-гасп. кампаній,—прасіць ЦСПСБ улічыць вынікі ўдзелу рабочых брыгад, забясьпечыць яшчэ большае ўцягненьне шырокіх мас у гэтую справу, асабліва адзначыць яшчэ недастатковы актыўны ўдзел у гэтай справе КСМ.

31. Прымаючы пад увагу наяўнасьць цэлага шэрагу недахопаў у правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі і асабліва ў падрыхтоўцы да ўборачнай і асеньняй пасеўкампаніі,—Прэзыдыум ЦКК і Калегія НКРСІ:

а) За няпрыняцьце рашучых мер па выкананьні і неправядзеньні такіх важнейшых заданьняў Партыі і Ураду, як разгортваньне мерапрыемстваў па жывёлагадоўлі, сіласаваньні, вапнаваньні глебы, спэцыялізацыі калгасаў, земляўпарадкаваньні і адводу сенажацяў, арганізацыі насеннаводнае справы і перакідак насеньня, кантрактацыі наогул і асабліва жывёлы, арганізацыі МТС і МКС, сваечасовае рэарганізацыі нізавой сеткі вытворчых каперацыйных аб'яднаньняў, унутранай арганізаванасьці калгасаў, капітальнага будаўніцтва, сваечасовага вырашэньня пытаньня вытворчасьці запасных частак для трактараў, выпрацоўкі акучнікаў, сканчэньня вышуканьняў вапнякоў, тэхнічнай распрацоўкі вапны, належнага кіраўніцтва справай кантрактацыі і сваечасовага выкананьня праверкі заключэньня ўмоў,—рашуча папярэдзіць НКЗ, калгасна-каперацыйную сыстэму, саўгасаб'яднаньні, ВСНГ, Белмэталятрэст, НКГ з тым, каб памянёныя недахопы катэгарычна зжыць у час падрыхтоўкі да ўборачнай і асеньняй пасеўкампаній;

б) За дапушчаную бясплянавасьць у крэдытаваньні, спазьненьне прасоўваньня крэдытаў у нізы, недастатковае скарыстаньне апошніх, затрымкі ў крэдытаваньні галоўнейшых мерапрыемстваў па сельскай гаспадарцы (капітальнае будаўніцтва, жывёлаводзтва, сіласаваньне), рашуча папярэдзіць Калгасбанк з мэтаю прыняцьця тэрміновых мер зьнішчэньня памянёных недахопаў;

в) Зьвярнуць увагу праўленьня Белкапсаюзу на нездавальняючае разгортваньне справы грамадзкага харчаваньня ў саўгасах і калгасах, арганізацыю ясель, дзіцячых пляцовак і г. д;

г) Паведаміць НКРСІ СССР аб тым, што з боку Калгасбуду Саюзу з вялікім спазьненьнем былі дадзены заказы Бабруйскаму Камбінату на стандартныя сілосныя башні—3/VII, а Лесбелу за нядбайныя адносіны да тэрміновага выдабу стандартных сілосных установак абвясьціць вымову;

д) За назіраемыя ў значнай колькасьці выпадкаў спазьненьні завозу машын, завоз машын няпоўнымі кamплектамі, валакіту ў адно-

сінах вырашэньня справы рэалізацыі кантынгэнту па інструмэнтарыю, затрымкі ў дасылцы месцам рахункаў, нядбайныя адносіны да разьмеркаваньня ўгнаеньняў па станцыях прызначэньня,—папярэдзіць праўленьне Белсельснабу і прапанаваць рашуча зжыць памянёныя недахопы;

е) Паказаць ЦКСТУ на дапушчэньне ім развалу ў сваіх нізавых органах;

ж) За выяўленыя значныя недахопы ў правядзеньні вясеньняй пасеўнай кампаніі і падрыхтоўкі да ўборачнай і асеньняй пасеўкампаній па Койданаўскаму раёну (пагроза зрыву сіласаваньня, вапнаваньня, кантрактацыі, неўпарадкаваньне ўнутранай арганізацыі калгасаў, блытаніна ў іх вытворчай спэцыялізацыі, спазьненьне з плянамі ўборачнай кампаніі, засьмечанасьць некаторых калгасаў,—Прэзыдыуму Койданаўскага РВК паставіць на від;

з) Паказаць Койданаўскаму РК КП(б)Б на выяўленыя абсьледваньнем РСІ факты: засьмечанасьць некаторых калгасаў, камун і саўгасаў кулацкім і варожым элемэнтамі, дрэнныя адносіны паміж калгасамі і індывідуальным сэктарам і нежаданьне наладзіць іх з боку кіраўніка калгасу „Новае жыцьцё", дрэнныя адносіны паміж некаторымі саўгасамі і калгасамі, бытавыя ненармальнасьці ў некаторых калгасах (п'янкі, выпадкі неадпаведнага скарыстаньня 25-ці тысячнікаў і г. д.), прапанаваць у тыднёвы тэрмін даць ЦКК вычарпальныя зьвесткі аб тым, што зроблена для зьнішчэньня і ўрэгуляваньня выяўленых абсьледваньнем недахопаў і ненармальнасьцяй.

32. Паказаць Віцебскай АКК РСІ на недапушчальнасьць невыкананьня ёю даручэньня НКРСІ і непрадстаўленьне матарыялаў па праверцы пасеўнай кампаніі і падрыхтоўкі да ўборачнай і асеньняй пасеўкампаніі.

33. Зьвярнуць увагу адпаведных судова-сьледчых органаў на неабходнасьць паскораньня разгляду справы зрыву вапнаваньня.

Нам. Старшыні ЦКК КП(б)Б—Нам. Народнага Камісара РСІ БССР **Іваноў**.

20 ліпеня 1930 г.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР.

### Паст. 148. Палажэньне аб экстэрнаце за ВНУ.

*(Зацьверджана Калегіяй НКА БССР 9/VI 1930, прат. № 37).*

1. Экстэрнат дапушчаецца: па БДУ за наступныя факультэты: пэдагагічны, савецкага будаўніцтва і права, наргас; за Сельска-Гаспадарчую Акадэмію, за Лясны, Зоатэхнічны і Пэдагагічны інстытуты.

Увага. 1. За Мэдычны факультэт, Вэтэрынарны інстытут і ВТНУ экстэрнат не дапушчаецца.

2. Экстэрнат, які павінен адбывацца пры ВНУ, дазваляецца ў кожным асобным выпадку рэктарам ВНУ па згодзе з зацікаўленымі арганізацыямі.

2. Дапушчаюцца да экстэрнату асобы, якія маюць сярэднюю адукацыю і правы на паступленьне ў ВНУ.

3. Дапушчэньне да экстэрнату робіцца рэктарам ВНУ, куды

жадаючыя экстэрнічаць накіроўваюць заявы з далучэньнем дакумэнтаў, якія сьведчаць аб тым, чаго патрабуе § 2.

4. Ніякіх ільгот па вайсковай павіннасьці дапушчэньне да экстэрнату не дае.

5. Дапушчаныя да экстэрнату асобы ўносяць плату за экстэрнат: члены прафсаюзаў—10% ад атрымліваемага імі заробку ў месяц, сяляне і саматужнікі—10% ад падатку, сяляне і саматужнікі, вызваленыя ад падатку, батракі, калгасьнікі і беспрацоўныя члены прафсаюзаў ад платы зусім аслабаняюцца.

Увага. Грошы ідуць на аплату дадатковай працы прафэсароў і дацэнтаў, а таксама і на выдаткі, зьвязаныя з правядзеньнем практычных прац экстэрнамі.

6. Для правядзеньня экстэрнату пры ВНУ арганізуюцца камісіі:

а) адборачная камісія, у якую ўваходзіць прадстаўнік дэканату, ЦСПСБ і студэнцкіх арганізацый;

б) іспытная камісія, якая вызначаецца дэканам.

7. Склад прафэсарскай часткі іспытнай камісіі выдзяляецца дэканатам і зацьвярджаецца рэктарам ВНУ.

8. Экстэрнаты працуюць 2 разы ў год—вясною і восеньню. Тэрмін і працяг сэсіі вызначаецца рэктарам ВНУ.

9. Іспыты адбываюцца па дысцыплінах, вызначаных, як абавязковыя, у навучальным пляне ВНУ на бягучы акадэмічны год; пры чым родственныя прадметы, па магчымасьці, яднаюцца ў групы.

10. Практычныя працы, прадугледжаныя навучальным плянам ВНУ, і дыплёмная праца могуць выконвацца экстэрнам у ВНУ, дзе ён экстэрнічае, а таксама ў навукова-дасьледчых інстытутах, прадпрыемствах, установах, саўгасах, калгасах і г. д.

11. Калі працы, адзначаныя ў § 10, выконваюцца па-за ВНУ, экстэрн прадстаўляе адпаведную завераную справаздачу аб гэтым, а дэкан правярае, ці адпавядае выкананая ў такім парадку праца навучальнаму пляну ВНУ.

12. Правераныя і прынятыя іспытнай камісіяй працы экстэрнаў застаюцца ў ВНУ і экстэрнам не выдаюцца.

13. Экстэрны маюць права разьмеркаваць іспыты, якія павінны здаць, ня больш, чым на 3 сэсіі, якія ідуць адна за другой.

14. Экстэрн, выявіўшы нездавальняючыя веды на 2-х іспытах, можа па асобнай у кожным выпадку пастанове іспытнай камісіі, трымаць гэты іспыт у наступнай сэсіі другі раз.

15. Экстэрн, вытрымаўшы іспыты, атрымоўвае аб гэтым пасьведчаньне паводле формы дыплёму ВНУ, якое падпісвае рэктар.

16. Дзелаводзтва па экстэрнату знаходзіцца ў справах ВНУ, які ў чарговай справаздачы асьвятляе вынікі сэсіі.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **Бялуга.**

Інспэктар ВНУ НКА БССР **Мазур.**

## Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР.

### Паст. 149. Пра арганізацыю паляўніцкіх заказьнікаў.

Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе:

I. Арганізаваць тэрмінам на 5 год, пачынаючы з 1 жніўня г. г. да 1 жніўня 1935 г., наступныя паляўніцкія заказьнікі:

Па Аршанскай акрузе:

1. У Сватошыцкім лясьніцтве, цалкам дачы: Баярская, Ліпецкая і Цыбульская, агульнай плошчай 1817 га.

Па Віцебскай акрузе:

2. У Сіроцінскім лясьніцтве, у Казьянскай дачы, у межах: з захаду—землякарыстаньне в. в. Ямішча, Вярогі, Арлейскае лясьніцтва Полацкай акр.; з поўначы—Арлейскае лясьніцтва Полацкай акр. да дарогі завод Пруды-Невельскі шлях, дарога завод Пруды-Невельскі шлях; з усходу—Невельскі шлях праз в. в. Ставіца і Гарадзішча да шляху Гарадок-Роўнае; з поўдня—шлях Гарадок-Роўнае,—усяго на плошчы каля 2500 га.

Па Гомельскай акрузе:

3. У Акцябрскім лясьніцтве, у Акцябрскай дачы, ў кварталах №№ 3-5, 12-19, 21-29, 31-39, 46-49, 55-64, 66-73, 77-83, 87-94, 106-109,— усяго плошчай 8620 га.

Па Менскай акрузе:

4. У Лагойскім лясьніцтве, у Чырвонаборскай дачы, у кварталах №№ 1-9, 12-17, 22-25, 26 (к захаду ад дарогі Юравічы-Хатынь), 34-37, 38-39 (на захад ад дарогі Юравічы-Хатынь), 42-46, 49-52, 55-57,—агульнай плошчай 4229 га.

5. У Іванаўскім лясьніцтве, у Раваніцкай дачы, у кварталах №№ 2, 3, 8, 9-13, 18-23, 26-32, 35-41, 45 і 50, 55-58,—агульнай плошчай 5351 га.

6. У Чэрвенскім лясьніцтве—паўночна-заходн. частка Руднянскай дачы, у межах: з поўначы—па шляху Менск-Чэрвень ад кварт. № 1 да рэчкі Гаці (Руднянка), з усходу—рэчка Гаць (Руднянка) ад шляху Менск-Чэрвень да ўпадзеньня яе ў р. Волма; з поўдня—рэчка Волма ўверх да вёскі Укач; з захаду—сенажаці ўроч. „Галы“ з уключэньнем пад заказьнік пахаці вёскі Крывапольле,—агульнай плошчай каля 3500 га.

7. У Грэскім лясьніцтве, паўночная частка Вераб‘ёўскай дачы, кварталы 1-44 уключна, Буда-Грэская дача кв. №№ 1-10 уключна, лясы мясцовага значэньня вёсак Захоцінава і Буда-Грэская, што ўправа ад дарогі Гацук-Захацінава, 21 квартал і наступныя сенажаці і пахаці, якія знаходзяцца сярод лесу:

а) вучасткі паміж кварт. $\frac{15}{24\text{-}25}$ да выхаду з дачы да лініі ад слупа 142 да слупа 173;

б) вучастак паміж кварталаў $\frac{8\text{-}9}{15}$ да выхаду з дачы да лініі ад слупа 184 да слупа 207;

в) вучастак паміж кварталамі $\frac{5}{3\text{-}4}$ да выхаду з лесу, да лініі ад слупа 219 да слупа 239;

г) вучастак паміж кварталамі $\frac{5\text{-}6}{10\text{-}11\text{-}12}$;

д) вучастак паміж кварталамі 2-7-12-13-14 Вераб‘ёўскай дачы і 2-5-7 Буда-Грэскай дачы да выхаду з лесу да лініі ад слупа 30 да слупа 250;

е) землякарыстаньне в. в. Захацінава і Буда-Грэская, што паміж 14, 20, 30, 39 і 40 кварталамі Вераб'ёўскай дачы і дачы лясоў мясцовага значэньня;

ж) землякарыстаньне хут. Гаўсовіча да выхаду з заказьніка да лініі ад слупа 7 да слупа 11;

з) вучастак паміж кварталамі 22-23 да выхаду з лесу да лініі ад слупа 4 да слупа 20;

і) вучастак паміж кварталамі 34-35 да выхаду з лесу да лініі ад слупа 27 да слупа 30, усяго на лясной плошчы 5400 га.

8. У Веляціцкім лясьніцтве Веляціцкай дачы, кварт. №№ 37, 38, 39 агульнай плошчай разам з перш арганізаваным заказьнікам у кв. №№ 48, 49, 50—514 га.

II. Адчыніць для паляваньня з 15 верасьня г. г. вурочышча Краснадворкі, Хамякоўскі і Галабордзкі мох Віцебскага лясьніцтва на плошчы 1000 га (пастанова НКЗ БССР за 28 лютага 1930 г.)

Народны Камісар Земляробства БССР **П. Рачыцкі.**

Член Калегіі НКЗ БССР
і Загад. Лясн. Сэктару **Я. Пятрушын.**

25 ліпеня 1930 г.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

**Паст. 150. Пра дапаўненьне п. 10 інструкцыі НКУС № 87 „Пра парадак вытрабаваньня дакумэнтаў з заграніцы і вышуку грамадзян.**

*Начальнікам Адмаддзелаў АВК І Сакратарыяту Віцебскага АВК.*

У зьвязку з тым, што вытрабаваньне дакумэнтаў па актах грамадзянскага стану для асоб, якія пражываюць за граніцай, а таксама і вышук грамадзян вытвараецца апроч НКЗС і выканкомамі т-ваў Чырвонага Крыжу і Чырвонага Паўмесяцу, п. 10 інструкцыі НКУС № 87 за 25/XII-1929 г. (Бюл. СНК БССР за 1930 г. № 1) трэба дапоўніць увагай наступнага зьместу:

„Увага. Правіла гэта не датычыцца працы па вытрабаваньню дакумэнтаў і вышуку грамадзян (б. ваенна-палонных і іншых асоб), якая праводзіцца Выканкомам Саюзу Таварystваў Чырвонага Крыжу і Чырвонага Поўмесяцу і ЦК Чырвонага Крыжу БССР, якія па такога рода справах вядуць перапіску з адміністрацыйнымі органамі непасрэдна".

Час. вык. аб. Нам. Народнага Камісара Унутраных
Спраў БССР **Якубчык.**

2 жніўня 1930 г.
№ 63.

## Абежнікі Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

### Паст. 151. Пра змаганьне з прарывамі ў правядзеньні чарговых кампаній.

### *Усім народным судам, вучастковым і гарадзкім пракурорам і сьледчым.*

Сваечасовае правядзеньне рознага роду кампаній, як уборачнай, хлебанарыхтоўчай, пасеўнай і г. д., мае для гаспадаркі краіны вельмі важнае палітычнае і гаспадарчае значэньне, чаму пры разгарнуўшайся клясавай барацьбе анцісавецкія і варожыя да рабочае клясы элемэнты і прымаюць усе захады да зрыву чарговых кампаній.

Змаганьне з гэтымі ўчынкамі павінна быць пастаўлена жорстка і рашуча. Меры змаганьня павінны праводзіцца без усякіх паслабленьняў і, асабліва, для дасягненьня станоўчых рэзультатаў, гэтыя меры павінны праводзіцца хутка.

Органы пракуратуры, суда і сьледзтва павінны прымаць самы актыўны ўдзел у змаганьні са злачынствамі і іншымі правапарушэньнямі, якія вядуць да зрыву тэй ці іншай кампаніі. Для правільнага і сваечасовага ўдзелу ў змаганьні са злачынствамі, зьвязанымі з кампаніямі па ўборцы і нарыхтоўцы хлеба, асеньняй пасеўнай і г. д., пракуратура, суды і органы расьсьледваньня павінны шчыльна сачыць за ўсімі дырэктывамі па правядзеньні кампаній і самі, не чакаючы паказаньняў ад вышэй стаячых органаў аб неабходнасьці прыняцьця адпаведных захадаў змаганьня са шкодніцтвам, нядбайнасьцю і іншымі злачынствамі, зьвязанымі з тэй ці іншай кампаніяй, павінны зараз-жа пасьля атрыманьня зьвестак аб учыненьні тэй ці іншай асобай дзеяньня, шкоднага для пэўнай кампаніі, пачынаць расьсьледваньне і прымаць да свайго справавядзеньня справы аб падобных злачынствах.

Для ажыцьцяўленьня ўскладзеных на іх задач судам, пракурорам і органам расьсьледваньня прапануецца:

а) пракурорам з удзелам рабочых брыгад альбо груп садзейнічаньня правяраць, як мясцовыя органы выконваюць выданыя Ўрадам пастановы і распараджэньні па кожнай кампаніі;

б) у выпадках нядбайных і бюракратычных адносін з боку службовых асоб да выкананьня іх абавязкаў у правядзеньні ўборачнай, пасеўнай або іншай кампаніі—трэба ўжываць адпаведныя захады ў залежнасьці ад характару і цяжкасьці ўчынку;

в) прымаць рашучыя меры сацыяльнай абароны супроць шкоднікаў і іншых варожых рабочай клясе асоб, якія сваімі ўчынкамі зрываюць тую або іншую кампанію;

г) усе мерапрыемствы для змаганьня з прарывамі ў правядзеньні кампаній прымаць сваечасова, у паасобку праводзіць сьледзтва і вырашаць справы ў пазачарговым хуткім парадку.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Міхайлаў.**

**30 жніўня 1930 г.**
**№ 35.**

**Паст. 152. Аб адказнасьці службовых асоб кантрактуючых арганізацый за парушэньне арт. 2 пастановы СНК Саюзу СССР за 7/X-1929 г. „Пра кантрактацыю прадуктаў сельскай гаспадаркі“.**

*Усім народным судам, вучастковым і гарадзкім пракурорам.*

Паводле арт. 2 пастановы СНК Саюзу ССР за 7/X-1929 г. „Пра кантрактацыю прадуктаў сельскай гаспадаркі“, кантрактацыя павінна, як агульнае правіла, праводзіцца праз сыстэму сельска-гаспадарчай капярацыі, і толькі ў выключных выпадках, паказаных пастановамі Савету Працы і Абароны, дапушчаецца правядзеньне кантрактацыі не праз сыстэму сельска-гаспадарчай капярацыі.

Прымаючы пад увагу, што, як відаць з паведамленьня Народнага Камісарыяту Гандлю, наглядаюцца выпадкі парушэньня паказанага правіла некаторымі арганізацыямі, чым зрываецца плянавае правядзяньне кантрактацыі, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе ўсім судова-сьледчым органам, пры атрыманьні імі зьвестак аб учыненьні падобных дзеяньняў, прыцягваць асоб, учыніўшых такія дзеяньні, да крымінальнай адказнасьці паводле арт. 202 Крымінальнага Кодэксу, пры чым Пракуратура, на падставе арт. 2 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу, павінна падаваць у суд іскі аб прызнаньні па арт. 30 Грамадзянскага Кодэксу гэтых дагавораў неправадзейнымі з вынікамі па арт. 149 Грамадзянскага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Міхайлаў.**

**27 жніўня 1930 г.**
**№ 36.**

**Паст. 153. Пра падсуднасьць спраў аб сацыяльна-небясьпечных дзеяньнях, зьвязаных з захаваньнем дробнай звонкай манэты.**

*Усім народным судам, вучастковым і гарадзкім пракурорам і сьледчым.*

Прымаючы пад увагу, што органамі расьсьледваньня ў некаторых грамадзян знойдзены захованымі запасы дробнай звонкай манэты, якія перавышаюць звычайную патрэбу, і што ў зьвязку з гэтым узьнікае пытаньне пра кваліфікацыю па Крымінальнаму Кодэксу дзеяньняў асоб, у якіх знойдзена ў вялікай колькасьці дробная звонкая манэта, а таксама пытаньне аб падсуднасьці такіх спраў, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе ўсім народным судам, вучастковым і гарадзкім пракурорам і сьледчым у дачыненьні паказаных спраў кіравацца наступнымі паказаньнямі:

1. Захаваньне колькасьці дробнай звонкай манэты можа быць вынікам рознага роду дзеяньняў, якія ў залежнасьці ад акалічнасьцяй справы і мэты, якая ставілася правапарушнікам пры ўчыненьні дзеяньня збору, скупцы альбо ўкрыцьці манэты, можна кваліфікаваць альбо як штучнае падвышэньне цэн на тавары праз затрыманьне дробнай звонкай манэты (арт. 155 Крымінальнага Кодэксу), альбо як парушэньне правіл аб валютных апярацыях (арт. 90 Крымінальнага Кодэксу), альбо па арт. 196 Крым. Код.' калі да адказнасьці прыцягваецца службовая асоба, альбо ў най-

больш цяжкіх выпадках, як падрыў грашовага звароту, які зроблен з контр-рэвалюцыйнымі мэтамі (арт. 68 Крымінальнага Кодэксу).

2. Усе паказаныя ў першым пункце справы, незалежна ад кваліфікацыі дзеяньняў асоб, якія прыцягваюцца да адказнасьці, павінны разглядацца народнымі судамі за выключэньнем выпадкаў, калі ў дзеяньнях прыцягваемых да адказнасьці асоб маюцца адзнакі, прадугледжаныя арт. 60 Крым. Кодэксу, і ў гэтых апошніх выпадках справы падлягаюць вырашэньню Найвышэйшага Суда.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР
і Пракурора Рэспублікі **Міхайлаў.**

За Старшыню Найвышэйшага Суда БССР **Штаер.**

**2 верасьня 1930 г.**
**№ 37.**




Адказны Рэдактар **С. Лодысеў.**

Зак. № 10, друк. ЄНК. Тыраж 4500 экз. Галоўлітбел № 1572.